


Станіслаў Шушкевіч

## ЗАЙКА — ШКОЛЬНІК

*Аж пусціўся зайка ў танец,*
*Бо купілі яму ранец,*
*Сшыткі, кнігі, карандаш...*
*Пойдзе ў школу зайка наш!*
*У гушчарніку ў лагу*
*Пад карчамі ў берлагу*
*Баравы стары мядзведзь.*
*Зайку ён навучыць пець,*
*І чытаць, і рахаваць —*
*Раз, два, тры, чатыры, пяць...*
*Скача зайка. Вось дык танец!*
*Нацягнуў на плечы ранец,*
*Вымыў ножкі, носік, вушы,*
*Заўтра ў школу зайка рушыць.*
*На сасне крычаць цяцёркі:*
*— Ты вучыся на пяцёркі!*

№ 34 (1097) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 20.VIII.1978 г.

**Леанід Царанкоў**

# ЗОЛАТА

**(КАЗКА)**

Ішоў салдат з вайны дадому. За плячыма ў яго — торба, а ў ёй — некалькі аржаных сухароў, па баках на поясе — па кацялку, а спераду, за тым жа поясам, — паходная лапата.

Ішоў ён праз цёмны лес і бачыць: стаіць будан. „Дай, — думае, — зайду адпачыць". Увайшоў. Упоцемку нічога не відаць. Але хутка агледзеўся і ўбачыў трох мерцвякоў, а побач — мех з золатам. Гэта разбойнікі не змаглі падзяліць багатую здабычу і ўсе загінулі, падцікаваўшы адзін аднаго.

„Раз гаспадары мёртвыя, то золата ім ужо не трэба. Вазьму, раздам бедным людзям", — падумаў салдат, ускінуў сабе мех на плечы і пайшоў сваёй дарогай — не захацеў адпачываць на гэтым ліхім месцы.

Ішоў ён, ішоў, упарыўся ад цяжкае ношы, прысеў адпачыць пад дрэвам на беразе рэчкі. Якраз месячык узышоў. І бачыць салдат: едуць тры коннікі — пан, суддзя і прыстаў.

— Куды, салдат, трымаеш шлях і што ў цябе ў мяшку? — спытаў суддзя.

— Так што дадому, вашбродзь, іду з вайны, а ў мяшку — золата.

— Угу, як многа! Дык гэта ж незлічонае багацце! — ахнулі трое. Потым ціхенька пашапталіся, злезлі з коней і паведамілі салдату, што заначуюць тут разам з ім.

— То і мне, вашбродзь, будзе весялей начаваць, — адказаў салдат, спутаў іхніх коней і прысеў пад кусцікам падыміць піпкай. І вось чуе ён ціхую размову, якую вялі пан, суддзя і прыстаў. Ліхадзеі згаварыліся, як салдат засне, забіць яго, а золата падзяліць паміж сабой.

Раскрылі дарожныя куфэркі, пачалі есці: пан — каўбасу, суддзя — звараную курыцу, прыстаў — смажаную парасяціну. Ежу запівалі віном — у кожнага ў куфэрку знайшлося па пляшцы, а мо і болей. Павячэралі і спаць ляглі.



Салдат не спіць, чакае, што будзе далей. А пан, суддзя і прыстаў толькі зрабілі выгляд, што заснулі. Прыкінуўся, нібы спіць, і салдат.

Вось ціхенька падняўся прыстаў. „Адсяку шашкай галовы пану і суддзі, а потым салдату. Усё золата

будзе маё“, — шаптаў ён. Схапіў шашку і адсек галовы сваім хаўруснікам. Кінуўся і да салдата, замахнуўся. Але салдат спрытна ўхіліўся ад удару і адначасова даў прыставу падножку. Той упаў потырч. Салдат адабраў у яго шашку і думае: што з ім зрабіць? Прыстаў пачаў прасіць не забіваць яго, абяцаў, што саслужыць салдату добрую службу.

— Добра, жыві, падлюга, толькі каб я цябе больш не бачыў, сядай на каня і — гайда сваёю дарогаю.

Салдат падышоў да каня прыстава, прысеў на карачкі і пачаў яго распутваць. Тым часам страх у прыстава прайшоў. Аглядаючыся, падышоў ён да забітага пана, выхапіў з ножнаў шаблю і кінуўся да салдата, каб знянацку адсячы яму галаву. Але салдат чакаў ад прыстава чорнай здрады і непрыкметна назіраў за ім. Калі прыстаў падкраўся да яго, салдат злаўчыўся і сам засек ворага.

„Не, відаць, золата нічога добрага не прыносіць, а толькі гора“, — падумаў салдат.

І, каб быць далей ад бяды, апаражніў ад недаедкаў і недапіткаў дарожныя куфэркі пана, суддзі і прыстава, высыпаў у іх золата і закапаў у зямлю.

*

Толькі нядаўна, працуючы на полі, людзі знайшлі гэтае золата.

І паблізу таго месца, дзе яно было закапана, пабудавалі вялікую новую школу. Так толькі ў наш час золата саслужыла службу народу.

**Мікола Хведаровіч**

## БЕРАЖАНКІ

*Лагер наш стаіць над рэчкай,*
*На пясчаным беражку.*
*Лес пануры недалечка,*
*Сена копы на лужку.*

*Цішыня тут толькі зранку,*
*А надыдзе стома дня —*
*Загалосяць беражанкі, —*
*Гоман, піск і мітусня.*

*І не будзе ўжо спакою*
*Ад гарэзніцаў малых:*
*То ўгару імкнуць стралою,*
*То да нор берагавых.*

*Яны ў норкі свае носяць*
*Мух куслівых, камароў,*
*І ўсё болей есці просяць*
*Дзеці стомленых бацькоў.*

*А бацькі, забыўшы стому,*
*Зноў у пошукі ляцяць.*
*Трэба ежы шмат маломуу,*
*Каб хутчэй дужэйшым стаць.*

*Сонца ўсім ласкава свеціць,*
*Абяцае шмат турбот.*
*Прыйдзе дзень — малыя дзеці*
*Самі рушаць у палёт.*



**М. Плавільшчыкаў**




**(Заканчэнне)**

Тук-тук-тук... Тук-тук-тук...

Стучыць, грыміць, гушкае. Трасецца клетка з Хаусам. І Хаус трасецца. У вагоне цёмна, але вочы ў Хауса добрыя — бачаць і ў цемені. Побач клетка, у клетцы другі чаротавы кот.

— Вурррррр, — завурчаў на яго Хаус.

— Вурррррр, — адказаў кот і распушыў вусы.

А пабіцца нельга — крата не пускае.

У вагон увайшоў чалавек. Хаус падцягнуўся, вусы натапырыў, поўсць узнялася дыба: „Вурррррр...“

— Ну, ну! Чаго яшчэ, — сказаў чалавек і ўсунуў у клетку кавалак мяса.

Калі чалавек пайшоў, Хаус з'еў мяса. Пахадзіў па клетцы, пашукаў — ці няма яшчэ.

Шмат дзён качала так і трэсла Хауса. А потым перастала. Цэлую ноч было ціха — поезд стаяў.

Раніцай узняўся шум, крыкі, беганіна. Пацягнулі клетку з Хаусам з вагона. Потым зноў зрабілася цёмна. Зноў трэсла. А потым зноў сціхла.

Хаус адкрыў вочы — відна. Клетку адчынілі. Хаус спалохаўся. Залез у куток і ніяк не хоча вылазіць. Яго папхнулі палкай. Хаус зашыпеў, ступіў — і... спераду прастор. Ён скочыў раз, другі і ўдарыўся аб крату. Цяпер крата была жалезная.

Хаус не шалеў. Ён агледзеўся, убачыў кучу саломы і палез пад яе.

— Павесьце вывеску!

Тук-тук-тук! — застукаў малаток. На клетку павесілі вывеску. На ёй было напісана „Чаротавы кот. Злоўлены ў Азербайджане“.

*

Вечар, Хаус вылез з-пад саломы і пачаў хадзіць па клетцы. Саджаў галаву паміж прутамі краты, узлазіў наверх. Ён дабраўся аж да столі, але ўсюды была крата.

Хаус ніяк не мог супакоіцца. Ён лазіў і лазіў. Тыцкаў галавой ва ўсе шчыліны. Шчыліны былі вузкія, галава не пралазіла.

І раптам — адна шчыліна аказалася трошкі шырэйшай ад іншых. Галава да палавіны пралезла паміж прутамі. „Вуррр...“ — завурчаў кот і ўсунуў галаву далей. Было вельмі балюча, але Хаус ціснуў галаву ўсё далей і далей. І вось — галава праслізнула паміж прутамі. Пругкае цела павісла ў паветры. Хаус цяпер трымаўся толькі заднімі нагамі. Потым ён праслізнуўся яшчэ далей, звесіўся ўніз, апусціў ногі і мякка ўпаў на зямлю.

Воля! Хаус хуткімі скокамі адбег ад клеткі і агледзеўся. Было цёмна. Ледзь вырысоўваліся цёмныя грамадзіны клетак. Здалёк да-

носіліся крыкі нейкага звярка.

Хаус пабег па парку...

У саджалцы, гушкаючыся на вадзе, драмалі качкі. На беразе чутка спалі, падціснуўшы адну нагу, гусі.

Хаус пачуў соннае краканне. Пайшоў наперад і натыкнуўся на агароджу. Яна была невысокая, і ён лёгка пераскочыў яе.

Хаус адчуў сябе зусім як на радзіме. І як там ён падкрадваўся да качак з-за чароту, так і тут ён пачаў падкрадвацца. Толькі хаваўся ён не за чаротам, а за ляжаўшай на беразе лодкай.

— Га-га-га... — узняўся на сажалцы крык. Крычалі качкі, гусі, па вадзе паляцеў пух.

Хаус схапіў вялізную тлустую качку. Дома свайго ў Хауса не было, але гэта яму не перашкаджала. Падбегшы да нейкай пабудовы, ён знайшоў шчыліну і палез у дзірку. Хаус трапіў у добрае месца, але якое — ён не ведаў. З'еўшы качку, ён моцна заснуў.

На другую ноч Хаус зноў выйшаў на паляванне. Па знаёмай сцежцы накіраваўся да сажалкі. Цяпер яму ўдалося падсцерагчы гуся. І яго ён пацягнуў да сябе „дадому“.

Толькі на трэці дзень вартаўнік заўважыў, што ката ў клетцы няма.

Хауса пачалі шукаць. Глядзелі ўсюды — пад клеткамі, у хлявах і хлеўчыках, аблазілі ўсе закамаркі. Ката нідзе не было.

А ў наступную ноч зноў галасілі качкі і зноў над сажалкай ляцела пер'е.

Хаусу паводзілася зусім нядрэнна. Ён быў наедзены, палявалася лёгка, а спалася добра і спакойна.

*

Вартаўнік прасядзеў у садзе ўсю ноч.

— Цяпер я ведаю, дзе ён хаваецца. Ён хаваецца пад сцэнай для аркестра.

Злазілі пад сцэну, злазілі на паддашша над сцэнай. Ката там не было.

Яшчэ ноч прасядзеў вартаўнік ля сажалкі. І ён убачыў Хауса, убачыў, як той злавіў качку і пацягнуў яе пад сцэну.

Вартаўнік забіў усе шчыліны пад сцэнай. Але Хаус знайшоў сабе новы выхад: яму давялося цяпер жыць на паддашшы. Але і тут яму было добра і спакойна.

Удзень вартаўнік улез на паддашша і знайшоў там пух, пер'е і абгрызеныя косці.

Падлогу паддашша пасыпалі пяском. На пяску павінны былі застацца сляды ката.

На другі дзень Хаус паказаў дарогу да свайго жылля. Сляды вялі да шчыліны ў абіўцы сцэны.

— Цяпер ты ад нас не ўцячэш...

Усе шчыліны на паддашша былі забіты. Забіты так, што Хаус ніяк не мог выйсці адтуль. Усю ноч кот лазіў і шукаў шчыліны — нічога не знайшоў. Спаць лёг галодным.

А на наступную ноч выхад знайшоўся. Хаус палез у яго і трапіў у сетку. Вартаўнік перахітрыў Хауса.

— Пойдзеш зноў у клетку!

Цяпер клетка была іншая. І, колькі ні лазіў па ёй Хаус, ён не знайшоў выхада. Так і застаўся ён у клетцы. І сёння сядзіць там. А на клетцы вывеска: „Чаротавы кот. Злоўлены ў Азербайджане“.



# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## ПРАГНЫ ДУБ

Самае прагнае на свеце дрэва — дуб. Штодзённа ён выпівае 85 літраў вады, асіна — 66, бяроза — 60, елка — 13, сасна — усяго 9 літраў.

## ПАВУКІ ПРАЦУЮЦЬ

Інданезійскія рыбакі прымушаюць працаваць на сябе... павукоў. Звязаўшы ліянамі бамбукавыя рамы, яны адносяць іх у джунглі і падвешваюць між дрэў. Гіганцкія павукі працуюць усю ноч, і да раніцы сетка гатова.

## СУХАПУТНЫЯ РЫБАКІ

На заходнім беразе паўвострава Новая Шатландыя ў Канадзе рыбакі не закідваюць свае сеткі ў мора. Яны навешваюць іх на высокія слупы, убітыя ў зямлю па ўсім узбярэжжы Фандзі — вузкага заліва, што аддзяляе паўвостраў ад мацерыка. Акіянскія прылівы дасягаюць тут вышыні 10 метраў, і вада заходзіць на некалькі метраў углыб сушы. Гэтым і карыстаюцца рыбакі.

Пасля адліву рыбу, якую прынесла вада і якая засталася ў сетках, „ловяць" з лесвіц, павозак ці ўзбіраюцца па яе па слупах. Як ні просты здаецца гэты спосаб лоўлі рыбы, „сухапутны" рыбак павінен валодаць вялікім вопытам і спрытам. Трэба дакладна разлічыць час і паспець у бяспечнае месца, перш чым зноў пачне наступаць вада.

## ПЕРШЫ ГЛОБУС

Першы ў свеце глобус паявіўся больш за тысячу гадоў назад. Як лічыць ташкенцкі вучоны П. Булгакаў, стваральнікам глобуса быў вялікі харэзміец Абу Рахан Біруні. Пяць метраў у дыяметры — не малыя для глобуса памеры. На ім былі адзначаны населеныя пункты з дакладнасцю, якая дазваляла вызначыць іх геаграфічныя каардынаты. Гіганцкі глобус загінуў у час міжусобнай феадальнай вайны, а яго стваральнік вымушаны быў уцякаць са сваёй радзімы Харэзма.

## АЎТОГРАФ ВУЧОНАГА

Расказваюць, што адной школьніцы з Лос-Анжэлас вельмі хацелася атрымаць аўтограф Альберта Эйнштэйна. Дзяўчынка пусцілася на хітрыкі: напісала сусветна вядомаму вучонаму, што яна і яе сяброўка не могуць пабудаваць датычную да двух акружнасцей...

Эйнштэйн адразу ж прыслаў чарцёж, дарэчы кажучы, прыведзены ва ўсіх падручніках геаметрыі для сярэдняй школы, і некалькі радкоў уласных тлумачэнняў. І падпісаў запіску А. Э.

## КАЛЕНДАРЫ І ДАТЫ

Сервантэс і Шэкспір памерлі 25 красавіка 1616 года, але гэта не значыць, што іх не стала ў адзін і той жа дзень. Іспанія і Англія карысталіся рознымі календарамі.

# ГУЛЬНІ

## СА СКАКАЛКАЙ ДА ФІНІША

Падзяліцеся на дзве каманды і палічыцеся ў кожнай па нумарах. Першыя нумары становяцца перад лініяй, у кожнага скакалка. А ззаду — уся каманда. Спераду, на адлегласці 25 метраў, другая лінія. Гэта фініш. Па сігналу суддзі першыя нумары скачуць праз скакалку да фініша і такім жа чынам вяртаюцца назад, і перадаюць скакалкі наступным нумарам. Перамагае каманда, якая першая закончыць бегі са скакалкай.

## ДВОЕ З МЯЧОМ

Двое дзяцей заціскаюць ілбамі невялічкі мячык. У такім палажэнні яны прытанцоўваюць, скачуць, але стараюцца ўтрымаць мячык.

Некалькі пар удзельнічае ў гэтай забаве адначасова. Пара, якая згубіць мячык, выходзіць з круга. Нарэшце застануцца самыя спрытныя. Яны — пераможцы! А ўсе іншыя выконваюць жартаўлівыя заданні, якія ім зададуць пераможцы.

## ДЗЕ „ПЕРАСМЕШНІК"?

Удзельнікі гульні прыходзяць у лес і разбрыдаюцца паміж дрэвамі і кустамі. Яны павінны знайсці „перасмешніка", гэта значыць таго, каму ўручаны свісток. Хто ён? Гэта ведае толькі кіраўнік групы. Ходзячы па лесе, усе перагукваюцца. Нечакана праяўляе сябе „перасмешнік", адказвае на „ау" сваім сігналам — кароткім свістком. Свішча ён у такі момант, калі перакананы, што за ім не наглядаюць. І пакуль яго шукаюць у адным месцы, ён ужо падае сігнал з другога. І так пакуль яго не зловяць.

## Яны любяць спяваць



*Іра Бурак з Пашкоўшчыны прыгожа спявае фальклорныя, старыя песні, якія яе навучыла родная бабуля.*

*Фота Я. Чэрнякевіч.*

## Пазнаёмімся

✱

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 15, кв. 25. Тані Меляшкевіч, 12 год.

✱

Славік Асіпюк, в. Крывая 90, 17-107 Галады, Беластоцкае ваяводства.

✱

СССР, 344020, г. Ростов/Дон — 20, ул. Шолохова, дом 9, Дудниковой Тане. Дзяўчынка скончыла восьмы клас.

✱

БССР, 231600, Гродзенская вобл., г. Масты, вул. Даватара, д. 11, кв. 1. Мухлядо Ані. Дзяўчынка скончыла восьмы клас.

✱

СССР, Азербайджанская ССР, г. Сумгаит, 8 микрорайон, дом 10 а, кв. 63. Наталье Блюменталь.

✱

Эва Зарэцкая і Аня Арцёмчык, вучаніцы восьмага класа, в. Мастаўляны, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

✱

Крыстына Салавянюк, вучаніца чацвертага класа, Трывежа 5, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

✱

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 100, кв. 48. Наташа Крыўцова, 13 год.

✱

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Адоеўскага, 41, кв. 42. Света Полушкіна, 12 гадоў.

✱

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Адоеўскага, 41, кв. 48. Лена Леонцьева, 13 гадоў.

## ЗАГАДКІ

✱

*Што за сям'я — мяркуйце самі:*
*Усе малыя, а з вусамі.*

✱

*Безвалосы маладзец,*
*А носіць грабянец.*

✱

*Днём танцуе па кватэры,*
*Ноччу спаць ідзе за дзверы.*

✱

*Сціснеш мяшок —*
*Падасць галасок.*

## А Д Г А Д А Н К А





*Складзі з запалак такі домік, як паказана на малюнку злева, а затым перакладзі тры запалкі так, каб атрымаўся домік, як на малюнку справа.*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка"** 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1